# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 150

## СЭНС ЖЫЦЦЯ

*Нарадзіўся*
*апутаны павуцінай несвядомасці*
*і згасну*
*як выстрал бясшумнай вінтоўкі*
*і не здолею*
*Адказаць на пытанне*
*навошта прышоў*
*і чаму адыходжу*
*Зямля —*
*дробны пылок у прасторы*
*вынік жмудных доследаў*
*нічога.*

*Кастусь Бандарук*

## КУПАЛЬНАЯ НОЧ

Як добра на свеце зышлося,
Што след да мяне ты знайшоў,
Што выдумаў нехта купалле
І ціхую ноч без вятроў.

Над рэчкай блішчэў ясны месяц.
І слалася лёгкая мгла,
А дзесьці за горамі ў лесе
Нам папараць-кветка цвіла.

Знайшоў ты яе, не сарваўшы...
Я душу тваю заняла,
І, руку насустрач падаўшы,
У сэрца цябе прыняла.

Над рэчкай ішлі карагоды,
Успыхалі агнёў языкі,
Дзяўчаты пускалі на воды
У купальную ночку вянкі.

Апоўначы роўна, у росах
Мы селі з табой на траве.
А рукі твае ў маіх косах
Хілілі мяне да цябе.

Лясы нас дурманілі пахам
І маніў у далі прастор,
І думкі плылі млечным шляхам,
А вочы блудзілі між зор.

Далёка плыла «Купалінка»,
Дзе цёмны мутнеў небасхіл,
А месяц з таемнай хітрынкай
Усю ночку за намі сачыў.

Купалле, купалле, купалле!
Нам сэрцы злучыла ў адно.
Купалле, купалле, купалле
Цябе да мяне прывяло.

*Зося Стаськевіч*



## ДАРОГІ

*Колькі сцежак, дарог*
*На радзімай зямлі.*
*Дзе бягуць і адкуль выбягаюць?*
*Каб хацеў ты і мог*
*Перайсці іх калі,*
*Дык ідзі, бо яны прыцягаюць.*

*Пульс крыніцаў жывых*
*Заклікае цябе.*
*Колькі тайнаў пазнаеш глыбокіх!*
*Як не знойдзеш усіх,*
*Дык прыдзецца табе*
*Павярнуці назад свае крокі.*

*Ды хоць скарбы ляжаць,*
*Спяць у нетрах зямлі*
*Сярод гэтых шырокіх прастораў.*
*Дык людзей не здзяржаць*
*І не зманяць яны*
*Ад нязнанай дарогі да зораў.*

*Толькі думка адна*
*Сон зганяе з павек,*
*Астанецца нязнанай нікому.*
*Як далёка яна*
*І куды завядзе,*
*А каторай вярнуцца дадому?*

*Леапольд Танкевіч*

АЛЕСЬ БАРСКІ

* * *

Колькі ж раз мы на зямлю упалі
і забыліся аб цэлым свеце
і блыталіся у шчасці
нібы пчолы ў вонным квецці
не саромімся і не баімся
выйсці крыкнуць
гляньце людзі
на зямлі мы шчасце распасцерлі
бо зямля яго не брудзіць.

* * *

*Час прыходу каханай*
*ёсць часам трывогі*
*як мора ў час прыліву*
*хвіліны чакання*
*хвіліны жадання*
*я добра іх знаю*
*як месяц над краем*
*заломіць далоні*
*ты грудзі у поле прыносіш*
*і косы кладзеш між калоссе*
*і поўнае прагі узлонне.*

*плод ты абагрэеш*
*і выпесціш і выкарміш*
*патомка*
*і мы узброімся*
*цярплівасцю трывожнай*
*чакаючы чакаючы*
*прыходу*
*жыццё інačай існаваць*
*не можа*
*што варты сад*
*без плоду*



* * *

*Мы дарогу свайго кахання*
*закруглім у кола*
*і будзем ісці па ім безупынна*
*каб не дайсці да канца і краю*
*і так ашукаем суровасць натуры.*

* * *

Пойдзем каханая ў шэры дождж
замочымся
заветрымся
і завасеннімся
застынем над ракой
як статуі як помнік
пазбаўлены сімволік і падтэкстаў
помнік што абазначае
выключна нашае каханне.

* * *

Давай у дом каханне занясем
досыць яму квітнець у лузе
няхай даспее пад страхою
і ў плод абернецца карысны
такая логіка жыцця
ад бесклапоцця да заботы
ёсць час квітнення
і час плоду
і час жніва
пара забавы
пара працы
жыццё ты падало
з даверам рукі нам
і вер што мы цябе не абясславім
і не асмешым
і ва ўласцівым часе ўсё мы зробім
і дачакаемся аж шчасце закалосіць.

* * *

У табе ёсць такое святло
што вабіць мяне як маяк
у табе ёсць такое цяпло
што кліча мяне як зямля
ты расшыраеш мой свет
і сыплеш іскрыны у зрокy
і ў дасканаласць завеш
дарогай як радасць шырокай
калі адыходзіш у даль
лес аддаляецца з песняй
дахаты прыходзіць бяда
і плача ціха ля весніц
у табе ёсць такое святло
ад якога квітнее каханне
у табе ёсць такое цяпло
як у жнівеньскім ранні

* * *

Каханне вырастала з нас
нібы сланечнікі з загонаў
было малым яно зялёным
ды мы наеліся пялёсткаў сонца
і прыплыла пара квітнення
і кожны мусіў заўважыць
што ўстала прыгажосць з каленяў

★ ★ ★

*Калі зрабілі крок*
*мы ў квітненне*
*дык зробім крок*
*і ў дасціванне*
*цяплом узлоння*

* * *

*Быць можа ты і я*
*для чалавецтва факт малы*
*яно ідзе сабе*
*і нас не бачыць*
*але у тым няма бяды*
*бо мы стварылі*
*мікрасвет свой*
*каханне наша мае краявід*
*і неба сіняе і сонца*
*і дрэвы ціхія і птушак*
*і радасць сумную сваю*
*і смутак радасны уласны*
*як хоча хто*
*заходзь у госці*
*глядзі*
*сядай за стол*
*частуйся*
*мы шчасцем хочам падзяліцца*
*так як вадою дзеліцца крыніца*

* * *

Будзь маёй ты дзяўчына трывогай
Не хачу я спакою ні цішы
болем сэрца маё ты наведай
і пайду за табою дарогай
і пайду за табою я следам
па зялёных далінах і ўзвышшах
як захочаш на мне абапрэшся
як запрагнеш з мяне ты нап'ешся
буду верны тваёй я падмогай
калі станеш маёй ты трывогай.

## МАЛЕНЬКАЯ ЛЮДА

Люстэрачка, люстэрачка,
Ты пакажы мне зайчыка,
Маленькага клубочка,
Што коціцца, што бегае
Па сценах і па ўслонах,
Па мураве, па даху,
Ніколі не стаміўшыся,
Ніколі не спазніўшыся.

Вазьму яго, маленькага,
Няхай пабачыць лялечку,
Лялечку-гультаечку.
Яна не хоча бегаць.
І спіць. А можа хвора?
Яе палечыш, зайка.
Твой хлеб давай мне татка.
Смачнейшы за цукеркі,
Ён пахне, быццам кветка
Вялікая, чырвоная.
Цвіла яна ў гародчыку.
Хадзі, пабачыш, зайка.
Няма? Вось паляцела!
Лаві яе, мой зайка,
То раскажу табе я
Пра дзедку і пра бабку,
Пра іхнюю курку рабку.
Ці бачыў нашу курачку?
Заву яе Агаткай.
Яна нясе яечкі
Вялікія і круглыя,
Як малако, ўсе белыя.
Чом так наставіў вушкі?
І пыскаю варушыш?



Мой касавокі зайка,
Не бойся мяне, добранькі.
Знай, я завуся Людаю.
А Бобік наш прывязаны,
Не бойся яго, зайка.
А вось ідзе наш коцік.
Кіці-кіці, Мурлыка.
Ён да цябе падобны,
Ды хвосцік яго доўгі.
А псік! А псік! Ой, мамка,
З'еў коцік майго зайку!
Мой бедны, добры зайка...
— Ну, перастань, дачушка,
Паглянь, кот злапаў мышку.
Тую мышку нядобрую,
Што па паліцы бегла
І ячка пабіла,
Залатое не прастое.
— А ці жыве мой зайка?
— Жыве, паглянь як бегае
І скача спрытна, спрытна.
Скочыў Людцы на лобік,
Скочыў Людцы у ручку.
Бяры, бяры! Уцякае.
— Пабег да нашай хаткі.
Хадзі хутчэй, дачушка,
Зайка прынёс абедаць
Смачнай заечай капусткі,
Смачнага сыру й масла...
— Мамка, бяжэм хутчэй мы,
Бо кот на масла ласы.
— Бяжэм, бяжэм, дачушка.

*Уладзімір Гайдук*

Пачатак на стар. 1

# З візітам у ставішчах

Размову з прысутнымі мы спынілі, таму што старшыня гуртка Юрка Рашчэнка папрасіў нас у прэзідыум, а член праўлення гуртка БГКТ Валя Лагвінюк прадставіла нас і дала мне слова. Я расказаў аб працы Галоўнага праўлення БГКТ, аб яго актуальных напрамках дзейнасці, аб працы нашай рэдакцыі «Ніва». З прыемнасцю хочацца падкрэсліць, што зацікаўленне гэтымі справамі было вялікае, а пытанні датычылі розных галін працы гайнаўскага аддзела і Галоўнага праўлення БГКТ.

Сцвярджалі прысутныя, што калі ўтварыўся гурток БГКТ, ажывілася моладзь, стала цікавей у святліцы. Бо і эстрада ГП «Лявоніха» тут дала канцэрт і пры дапамозе Віктара Буры ЛьЗС перадаў моладзі спартыўныя прылады. І толькі бянтэжылі нас закіды, якія можна было б абагульніць адным пытаннем «чаму на працягу 15-ці год (аж да студзеня 1971 года) ніхто не прыехаў у нашу вялікую беларускую вёску?»

Наступным цікавым пунктам нашай сустрэчы была «Згадуй-згадуля» на супрацьалкагольную тэматыку, якую правёў Віктар Бура (ён з'яўляецца дзеячом антыалкагольнага камітэта). 6 асоб выцягвалі канверты з пытаннямі і адказвалі на іх. Першае месца ў гэтым конкурсе здабыла Зіна Рашчэнка. Атрымала яна першую ўзнагароду — сокавыжымалку. Другою ўзнагародаю была начная настольная электрычная лямпа, трэцяй — камплект ложак і т.д. Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі ўзнагароды.

Сустрэча наша працягнулася да поўначы. І хаця было позна, члены БГКТ закідалі нас многімі пытаннямі, на якія мы з задавальненнем адказвалі.

*Міхась Хмялеўскі*

Павялічаная колькасць свіней і жывёлы на пунктах скупкі прадбачваецца на асеннія месяцы. Аб гэтым сведчаць дэкларацыі гаспадароў, якія яны складалі на сходах, звязаных з новымі ўмовамі свіна- і жывёлагадоўлі. Для гэтых павялічаных паставак трэба падрыхтаваць адпаведную базу. А тым часам?...

У Беластоцкім ваяводстве зараз налічваецца 147 пунктаў скупкі жывёлы. Мала гэта ці многа? Не можна смела сцвердзіць, што такая колькасць пунктаў скупкі дастатковая. Гаспадары некаторых вёсак мусяць ехаць да пунктаў скупкі па 10 і больш кіламетраў. Гэта ж займае шмат каштоўнага часу. Але не ў гэтым заключаецца бяда. Справа ў тым, што існуючыя пункты скупкі — гэта найчасцей выдзеленыя ў полі пляцы, куды нельга гаспадару ні даехаць, ні дайсці, гэта месцы, дзе няма ў чым прымаць закупленую жывёлу, дзе гаспадары мусяць часта чакаць па некалькі гадзін, пакуль здасць сваю жывёлу. Можна множыць гэтыя балючыя справы, справы, зрэшты, вядомыя адпаведным установам.

Штосьці з гэтым трэба рабіць. Часу засталося не многа, а работы шмат. Зразумела, што асноўны цяжар кладзецца тут на гмінныя спулдзельні, якія займаюцца скупкай жывёлы. Сёлета не прадбачваецца пабудовы новых пунктаў скупкі, а інвестыцыйны фонд будзе накіраваны на мадэрнізацыю ўжо існуючых. Праграма ўпарадкавання пунктаў скупкі ў ваяводстве прадугледжвае ў бягучым годзе інсталяцыю рухомых рамп, пабудову калодзежаў і водаправодаў, рамонты і адаптацыю ўжо пабудаваных аб'ектаў, пабудову пачакальні, дарог і пляцаў скупкі. Спулдзельні Беласточчыны прадугледзелі на гэта больш 20 мільёнаў зл. Апрача таго, ЦРС на працы, якія выконваюцца грамадскім чынам, прызначыў ваяводству 8 мільёнаў зл. На чынавыя працы на пунктах скупкі ў спулдзельнях зараз больш 22 мільёнаў зл. Да гэтага

## Падрыхтоўка да скупкі

ліку трэба дадаць далейшыя 22 мільёны, бо дзяржава ў рамках падтрымкі грамадскіх чынаў дафінансоўвае 50 працэнтаў чынавых інвестыцый.

Дык аказваецца, што і грошы ёсць. Але як іх рэалізаваць? Справа нялёгкая, паколькі многія працы з'яўляюцца «нефаховымі» і за гэта мала плацяць. У такім выпадку на вёсках і мястэчках знайсці рабочых вельмі цяжка, а часам абсалютна немагчыма.

З дапамогай прыйшла вясковая моладзь. Зараз няма яшчэ даных, колькі і што зроблена. Праца працягваецца, а ў некаторых мясцовасцях яшчэ не пачалася. Вядома аднак, што супрацоўніцтва спулдзельняў з моладдзю добра выглядае ў Беластоцкім павеце. Тут каля 50 гурткоў ЗМВ прымае ўдзел у чынах пры мадэрнізацыі пунктаў скупкі, а гэта абазначае, што перапрацуюць яны больш 5 тысяч працагадзін. Пры чым гэтыя даныя няпоўныя. Зразумела, моладзь будзе працаваць за пэўнай аплатай. Аднак гэтая аплата мае пайсці на патрэбы гуртка ЗМВ ці ўсёй моладзі ў данай вёсцы, а не кожнаму ў кішэню. Гурток ці калектыў моладзі за заробленыя грошы можа паехаць на экскурсію, адрамантаваць святліцу, купіць музычныя інструменты ці выдаткаваць на іншыя мэты. Для прац даўжэйшых праўленні ЗМВ арганізуюць гуфцы працы, якія будуць дзейнічаць на нармальных існуючых ужо правах.

Работнікі павятовых праўленняў ЗМВ уваходзяць у кантакт з прэзасамі ГС-аў і разам з імі сустракаюцца з моладдзю. Тут знаёмяць моладзь з т.зв. фронтам прац і падпісваюць пагадненні. Зразумела, што гэтыя працы датычаць пасадкі дрэвак вакол пляца скупкі, выкапання ямы пад інсталяваную вагу, як гэта было ў Міхалове, праца пры рамонце даяздных дарог і т.п. ГС-ы са свайго боку запэўніваюць матэрыял, патрэбныя прылады працы і харчаванне.

### Новыя культурна-асветныя цэнтры

У месяцы маі г.г. з нагоды святкавання Дзён асветы, кнігі і друку жыхары Беластоцкага павета атрымаюць некалькі новых культурна-асветных цэнтраў. 11 мая г.г. быў, між іншым, перададзены ў карыстанне грамадскі цэнтр культуры (ГОК) у Міхалове, у якім абсталявана кіно «Чайка», клуб «Руху», грамадская бібліятэка разам з чытальняй і пакоі для светліцовых заняткаў. Падобны аб'ект атрымаюць жыхары вёскі Пагажалкі.

Новыя клубы будуць адкрыты ў Сабалеве і ў Сахонях (клубы селяніна) і ў Цесным (клуб «Руху»). Плануецца адкрыццё святліцы ў Лявіцкіх. 6 мая г.г. была адкрыта грамадская бібліятэка ў Грабаўцы, дзякуючы чаму зараз ва ўсіх грамадах у павеце ёсць уласныя бібліятэкі. (яц)

### Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Па смерці майго мужа засталася гаспадарка. Яго пляменніца, якая карысталася дагэтуль з гаспадаркі, хоча яе прадаць. Ці можна гэтаму перашкодзіць?

АДКАЗ: Гаспадарку маглі б прадаць толькі ўсе наследнікі вашага мужа разам. Каб высніць, хто з'яўляецца наследнікам, трэба звярнуцца ў суд, каб той сцвердзіў, хто атрымлівае спадчыну, а асабліва каму належыць гаспадарка. Правы да гаспадаркі захоўваюць толькі тыя наследнікі, якія перад смерцю вашага мужа працавалі на гаспадарцы няспынна прынамсі адзін год, былі членамі сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва, мелі ўласную гаспадарку, або працавалі на гаспадарцы сваіх бацькоў, цесця або мужа ці жонкі, а таксама непаўналетнія і непрацаздольныя.

Пляменніца не мае права па закону атрымаць у спадчыне сельскую гаспадарку, калі муж ваш не пакінуў завяшчанне на яе карысць.

### У мілейчыцкіх керамікаў



*У Мілейчыцах.* *Фота: Я. Цялушэцкі*

Са справамі прадпрыемства будаўлянай керамікі ў Мілейчыцах, Сямяціцкага павета, знаёмілі мяне кіраўнік прадпрыемства Уладзімір Швец і майстар Мечыслаў Пархоменка. Керамічнае прадпрыемства прадукуе кафлі двух сартоў: белыя і каляровыя. Выпускае яно ў сярэднім 1 мільён 740 тысяч штук кафляў у год. Калі няма на іх вялікага запатрабавання, тады прадпрыемства перастаўляецца на так званую пабочную прадукцыю, між іншым, надмагільных знічаў (як гэта мае месца зараз) або кравэнжнікаў і хаднікоўых плытаў (як гэта мела месца ў мінулым годзе, калі было запатрабаванне на іх у саміх Мілейчыцах).

На мілейчыцкім прадпрыемстве працуе 76 асоб. Рабочыя забяспечаны неабходнай летняй і зімовай вопраткай. Тыя з іх, хто працуе ў найбольш цяжкіх умовах, напрыклад пры абслугоўванні печаў, атрымоўваюць дадаткова малако. Прадпрыемства мае сваю ўласную святліцу. У ёй праводзяць свой вольны час або рыхтуюць урокі пад наглядам педагога дзеці рабочых. У будучыні асветныя ўлады намераны адкрыць святліцу ў мясцовай школе і на больш месц. (яц)

## Моладзь і клуб

Адзіным цэнтрам культуры ў вёсцы Кузава, Гайнаўскага павета, з'яўляецца клуб «Руху». Заснаваўся ён у 1964 годзе. Раней была тут вясковая святліца. Зараз у клубе знаходзіцца бібліятэчны пункт, які вядзе кіраўнічка клуба Марыя Раманюк. Ёсць тут каля 120 кніжак і больш 40 чытачоў. Найбольш чытаюць Мікалай Раманюк, Зіна Саўчук і Анатоль Долгаў. Пры клубе дзейнічае спартыўная каманда ЛьЗС, арганізатарам і кіраўніком якой з'яўляецца Янка Калішэвіч, а таксама гурток ЗМВ, які ўзначальвае абсальвентка засаднічай прафесіянальнай школы Марыя Раманюк. Спартыўная каманда ЛьЗС часта выязджае на розыгрышы па футболу. На працягу свайго існавання яна атрымала некалькі дыпломаў, якія знаходзяцца ў клубе. Члены ЗМВ пабудавалі ў сябе побач клуба так званую «зялёную святліцу», дзе зараз арганізуюць забавы. Пасадзілі яны вакол

## Беларуская паленіка

Зусім натуральным з'яўляецца вялікае зацікаўленне творчасцю і асобаю Адама Міцкевіча на Беларусі. Беларусь — яго родная зямля. У Мінску паявіліся публікацыі, якія сведчаць аб жывых і сардэчных адносінах да польскага паэта. У кніжцы пад загалоўкам «Зямля навагрудская, краю мой родны» (укладальнік Адам Мальдзіс, мастак Васіль Шаранговіч. Выдавецтва «Беларусь», Мінск 1961) змяшчаюцца творы А. Міцкевіча, якія найбольш звязаныя з Беларуссю. Да іх належаць: «Мешка, князь Навагрудка», фрагмент «Картофлі», «Да Чачота», «Да Нёмана», «Пес-

### Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

## Перыяд Вялікага Княства Літоўскага

### Летапісы — частка IV. Хроніка Княства Літоўскага і Жамойцкага

Твор, які мы хочам прадставіць сёння чытачам, быў заснаваны на грунце «Пашыранай хронікі», аб якой мы гаварылі ў папярэднім адрэзку. Адной з самастойных частак новага летапіснага зводу з'яўляецца «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага». З гэтай хронікі, услед за некаторымі даследчыкамі, бярэм загаловак для ўсяго твора. У якіх адносінах застаецца гэты твор да «Пашыранай хронікі»? Па-першае, падзеі, прадстаўленыя ў новым творы, звязаны з цэлым XV і першай паловай XVI стагоддзя, тады калі ў «Пашыранай хроніцы» найпазнейшыя звесткі паходзілі з першай паловы XV ст. Па-другое, у новым творы няма сістэматычных звестак аб Кіеўскай Русі. Па-трэцяе, у «Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» многа чысцейшая, пазбаўленая старaславянскіх элементаў беларуская мова, чым гэта было ў «Пашыранай хроніцы».

Усе гэтыя адрозненні на карысць новага твора. З другога аднак боку знаходзім у ім і адмоўныя рысы. Адмоўная яго ўласцівасць праяўляецца ў тым, што яго аўтар стаіць на грунце толькі літоўскіх інтарэсаў і абыякава ставіцца да беларускага і ўкраінскага насельніцтва. З гэтай прычыны «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» беларуская толькі ў сваёй форме (мове), па змесце і ідэйнай накіраванасці мае яна літоўскі характар. Твор напісаны з выразнай тэндэнцыяй да ўзвелічэння літоўскай зямлі, літоўскай дзяржавы, літоўскай гісторыі. І гэтым, мабыць, тлумачыцца факт адсутнасці ў творы сістэматычных звестак аб Кіеўскай Русі. Праўда, ёсць у хроніцы пэўныя інфармацыі аб старарускай дзяржаве, але адносяцца яны да распаду гэтай дзяржавы і заваёў беларускіх і ўкраінскіх зямель літоўскімі князямі.

Бадай што да найбольш каларытных эпізодаў «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» належыць тая частка твора, у якой аўтар расказвае аб паходжанні літвінаў. Імкнучыся падкрэсліць высокароднасць літоўскай шляхты, аўтар хронікі выводзіць яе са старажытнага Рыма. Хранікар характарызуе рымскага кесара Нерона (I стагоддзе нашай эры) як чалавека з садыстычнымі схільнасцямі. Нерон, гаворыць аўтар, тэрарызаваў і тыраніў усю краіну, нават родную матку і асабістага лекара ўласнаю рукою «у смерць прыправіў». У такой сітуацыі ніхто не быў пэўны «не толькі сваёй маёмасці і скарбаў, але і здароўя свайго». Вынікам такога стану было тое, што многія знатныя людзі Рыма пакідалі сваю краіну. Сярод уцекачоў апынуўся таксама князь Палемон — сваяк Нерона, які разам з дзяцьмі, жонкай і пяцюстамі вядомых рымлян скіраваўся суднамі на захад. Праплыўшы Серадземнае мора і акіян, даплыў Палемон «да уйсця, дзе рака Нёман упадае ў мора акіян». Рымляне паплылі ўверх Нёмана і каля уйсця Дубісы выйшлі на бераг. Заўважыўшы, што ў тым месцы многа рыбы і звяроў, пастанавілі пасяліцца. Асеўшы, «назвалі тую зямлю славянскай мовай — пабярэжная зямля, а літоўскай мовай — жамойцкая зямля». Рымляне пачалі размнажацца і далі, такім чынам, пачатак літоўскай шляхце і літоўскім княскім родам. Калі на рускія землі пачалі нападаць татарскія орды пад кіраўніцтвам Батыя і калі рускія княствы пачалі распадацца, літоўскія князі пачалі заваёўваць рускія землі. Вынікам гэтай барацьбы было Вялікае княства Літоўскае.

Летапісец у сваім творы прадстаўляе значную колькасць князёў і вялікую колькасць фактаў. Аўтар апрабуе кожны крок і кожны акт літоўскіх князёў, асабліва тады, калі гэтыя крокі і акты былі скіраваныя супраць рускіх зямель. Летапісец даводзіць апісанне гістарычных падзей да перыяду панавання Гедыміна, якога хваліць аўтар за далучэнне да Вялікага княства ўкраінскіх зямель.

Канчаецца хроніка эпізодам, які па свайму характару з'яўляецца чыста мастацкім творам. Акадэмік Карскі лічыць гэты эпізод літоўскай народнай казкай. І сапраўды, гэтая частка хронікі мае супольныя рысы з фальклорным творам. З эпізода даведваемся, што пасля

30.

Памкамузвода ўзяў рыдлёўку, а Ванін скочыў на бруствер і, узіраючыся ў шэры ветраны прыцемак, нацягнуў на плечы ватоўку.

— А ты чаго ў тыл не ідзеш? Ананьеў жа сабе Зайцава ўзяў.

— Ну і хай, — сказаў я. Размаўляць з ім аб гэтым мне не хацелася, і я маўкліва таптаўся на брустверы, чакаючы, што Ванін пачне ўгаворваць ісці лячыцца. Але ён раптам сказаў:

— А ўвогуле правільна. Пойдзеш — наўрад ці вернешся. А табе ж на медаль паслалі.

Зашпіліўшы партупеі, малодшы лейтэнант на кукішках прысеў побач і адной рукой палашчыў Пульку, які радасна заварушыўся на зямлі.

— Яны там не глядзяць, з якой часці, а пасылаюць, куды трэба. Я во да гэтай дывізіі ў гвардзейскай служыў. У разведцы. А са шпіталя аддзел кадраў сунуў сюды. Я ім даказваў — дзе там! І слухаць не хочуць. Дывізія на фарміроўцы, камандзіраў недакамплет, кадры патрэбны. Так што старайся далей санбата не ехаць.

— Як пастараешся!

Не адказаўшы, Ванін кінуў насцярожаны позірк уздоўж траншэі.

— Зноў там перакур.

Ён імкліва ўскочыў і хутка пайшоў па брустверы, пакінуўшы мяне ля Закірава. За ім жа пабегла і Пулька.

Закіраў моўчкі ўзяўся капаць, ужо не зважаючы на мяне. Ён наогул быў маўчун і тугадум: размаўляць з ім кожны раз было пакутай.

Я пачакаў крыху, мяркуючы, што Ванін неўзабаве вернецца, але ён не вяртаўся. Тады я памалу рушыў па брустверы і непадалёк ад Закірава зноў напаткаў яго. Малодшы лейтэнант шпарка ішоў насустрач і, яшчэ не дайшоўшы да памкамузвода, гукнуў:

— Закіраў, ты дзе Лукіна паставіў?

— У сваім аддзяленні быў.

— Ды няма яго там...

Заняты сваім клопатам, Ванін быццам і не заўважаў мяне — на хаду павярнуўся і хутка пакрочыў назад. Я ж спыніўся, не ведаючы, ісці за ім ці чакаць тут. Неяк няёмка было перабіваць яго турботныя справы сваёй дробязнай просьбай.

Двое аўтаматчыкаў у траншэі моўчкі і засяроджана калупалі ў цемры рыдлёўкамі. Выкапалі яны ўжо глыбакавата, ледзьве не ў рост, а ўсё яшчэ дзяўблі там у дне. Адзін з іх, што воддаль варушыўся ў змроку траншэі, заўважыў:

— Зараз ён дасць Лукіну.

— І правільна зробіць, — зморана хакаючы, пацвердзіў другі. — Хай не сачкуе...

Па голасе я пазнаў аднаго — гэта быў Гаркавы, самы стары аўтаматчык у роце, які служыў тут ці не ад самай Масквы.

32.

І тым не менш Гаркавы з лёгкай настойлівасцю пярэчыў.

— Хай ерунда. А на Грыневіча занадта азіраецца. Той не глядзі, што ціхмяны. Як каторая жонка: ціхенькая, а мужык у яе пад абцасам...

— Нічога ён не азіраецца, — сказаў я.

— А ты вось прыглядзься. Прыглядзься калі...

Дзіўны чалавек гэты Гаркавы. Я амаль быў упэўнены, што ён гаворыць няпраўду, што Ананьеў не такі камандзір, каб азірацца на свайго намесніка. Тым не менш, сказана гэта было такім пераканаўчым тонам, што і сапраўды ў маёй памяці пачалі ўсплываць некаторыя выпадкі. І, як ні дзіўна, а выходзіла, што і сапраўды часам ротны чакаў, што ў тым ці другім разе скажа Грыневіч. Хоць зусім магло быць, што так было трэба, што яны проста раіліся дзеля карысці справы.

Я ўжо амаль з цікаўнасцю ўзіраўся ў невыразную шэрую ў прыцемках постаць Гаркавага, з шапкай-растапыркай на галаве, адчуваючы нейкую павагу да немаладога, звычайнага, малапрыкметнага байца, з якім праваяваў у роце паўгода, але амаль ні разу дагэтуль не звярнуў на яго ўвагі. Ва ўсякай справе Гаркавы заставаўся на дзіва староннім і ціхім, а, глядзі ты, — пра многае меў сваю адметную і нават нечаканую думку, не палічыцца з якой было не так проста. І разам з тым гэтая яго разумная назіральнасць міжвольна насцярожвала, нават, невядома чаму, настройвала крышку не ў карысць Гаркавага.

Мне стала цікава, і я ўжо наважыўся застацца з гэтымі двума — хоць на сцюжы, а ўсё весялей будзе скаратаць ноч. Але толькі я падумаў аб тым, як з прыцемак паказаўся Ванін. Цяпер чамусьці ён ішоў не адзін і, згледзеўшы мяне, сказаў таму, што ішоў ззаду:

— Вунь Васюкоў.

Я паціху падняўся з бруствера.

— Тут во цябе Зайцаў шукае.

Я ўраз насцярожыўся, нешта трывожна-радаснае варухнулася ў грудзях і замерла.

— Камандзір роты заве, — сказаў Зайцаў. — Вячэраць.

Хвіліну я вагаўся, як нешта ва мне дзіўна і ўвачавідкі перайначваецца ў адносінах да камандзіра роты, да Ваніна і нават да гэтага вось Гаркавага. Зноў усіх засланіўшы сваёй вялікай постаццю, вырас у маім уяўленні Ананьеў. Праз хвіліну я ўжо дзівіўся з сябе ранейшага: было чаго крыўдаваць! Нічога кепскага ён мне не зрабіў, проста яго галава, як заўжды, забіта сваім клопатам. Хіба гэта не відаць было адразу! А калі, во, павальнела, адлеглі справы — успомніў і спецыяльна паслаў Зайцава шукаць мяне, дурня, уначы па траншэі.

— Давай, — падагнаў Ванін. — А мне некалі. Акапаемся, тады забягу.

У бліндажы было людна і накурана, затхла смярдзела мокрымі шынялямі, зямляной сырасцю і трацілам.

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

*Карэспандэнцыя з Гродна*

### НОВЫЯ МЕТАДЫ ЛЯЧЭННЯ

У Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы прымяняюць новыя метады лячэння і абследавання розных хвароб. Установка «Скенар», якую вы бачыце на гэтым здымку, дазваляе лекарам ўстанаўліваць дыягназы пры хваробах печані, нырак і шчытападобнай залозы.

На здымку: загадчыца радыялагічным аддзяленнем Ніна Скорабагатава і лабарантка Яўгенія Хлябіч правяраюць хворага. Фота Я. Краўчанка



### ЦЭХ МІКРАЭЛЕМЕНТАЎ У САЎГАСЕ

У раёне адно за другім уступаюць у строй прамысловыя прадпрыемствы. Нядаўна ў гарпасёлку Юрацішкі здадзен у эксплуатацыю дрэваапрацоўчы цэх, у райаб'яднанні «Сельгастэхніка» — станцыя тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў на 900 умоўных рамонтаў.

А днямі ў саўгасе «Жэмыслаўль» закончана будаўніцтва цэха па вырабу мінеральных кармавых дабавак. У ім змантаваны змяшчальная машына, драбілка, норыі і іншыя механізмы. Працэс падрыхтоўкі кармавых дабавак не складаны: у пакрышаны мел у акрэсленых дозах уносяцца розныя мікраэлементы, дакладна перамешваюцца і ўпарадкоўваюцца.

У бягучым годзе цэх дастравіць на жывёлаводскія фермы калгасаў і саўгасаў вобласці тысячы тон мінеральных кармавых дабавак.

*Ів'еўскі раён.*

### АДЗІН; ДВА... ЧАТЫРЫСТА

Каму падабаецца збіраць аўтографы слаўных спартсменаў, у каго зноў цяга з дзяцінства да паштовак. А Яўгеній Ялісееў, трэнер абласной ДСШ, неабыякавы да спартыўных медаляў і жэтонаў. Паколькі ён сам баскетбаліст, то, натуральна, у першую чаргу, яго цікавяць сілуэты баскетбола, апраўленыя ў метал недзе пад небам Мехіка, або, скажам, у краіне баскаў.

Трэба мець незвычайную цярплівасць, каб пры сённяшняй канкурэнцыі калекцыянераў здабыць рэдкасць. Але... паляванне горш няволі. Знайшоў адзін, другі, трэці экземпляр і — трапіў на вудачку...

— Так было і са мною, — прызнаецца Яўгеній. — «Заразіўся» прыпадкова, а цяпер ужо не кінеш: цягне! Да сотні пакуль набралася, кожны тыдзень пераглядаў свой «збор». Потым справа пайшла весялей. 300... 400 і г.д. Цяпер дакладна не ведаю, колькі ў калекцыі значкоў, — гаворыць ён. — Хутка будуць рабіць «рэвізію», тады і высветліцца канчатковая цыфра...

Значкі... Жэтоны... Арыгінальныя, каштоўныя, рэдкія. Ганаровы значок федэрацыі баскетбола Іспаніі. Якім чынам ён трапіў у Гродна? Гэта падарунак Яўгенію ад сябра Аляксандра Шушкіна, які быў удзельнікам чэмпіянату Еўропы.

А гэты? Таксама падарунак. Яго з Любляны, з чэмпіянату міру па гімнастыцы прывезла Вольга Корбут. Адкуль прыдзе чарговае папаўненне, цяжка прадбачыць. Але ў адным нельга памыліцца: гэты год узбагаціць калекцыю трэнера.

*«Гродзенская праўда»*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СМАЧНЫЯ ПАТРАВЫ СА ЗМЕЛЕНАГА МЯСА

Ранняю вясною мы часта задаем сабе пытанне: што зрабіць на абед? Сапраўды, выбару занадта вялікага няма, зеляніны яшчэ не так многа. Можам аднак мы ўразнаіціць, расшырыць колькасць патраў з ужо вядомых складнікаў. Напрыклад, са змеленага мяса. Вядома, звычайныя катлеты хутка прыядаюцца, дык раім сёння зрабіць са змеленага мяса нешта новае.

Наогул можна гэтыя патравы падрыхтаваць хутка і спраўна, купіўшы ў магазіне ўжо змеленае мяса. Калі ўжо мы вырашым яго купіць, дык лепш купляць валавіну напалову з свінінай. А ўсё ж неабходна памятаць, што гатовае змеленае мяса, якое мы купляем у магазінах, не заўсёды мае найлепшую якасць, можа яно быць занадта тлустае, не заўсёды мець адпаведную прапорцыю валовага і свінога мяса.

Дык наогул лепш было б мяса змалоць самому (відаць прынамсі, што мелеш). Важным з'яўляецца таксама адпаведная падборка розных прыпраў. Да змеленага мяса дадаем сырую цыбулю, сцертую на тарцы, дадаем крыху солі, перцу, калі хто любіць — майранку. Калі хто любіць вострыя патравы, добра яшчэ дадаць чайную лыжачку сцертага на тарцы хрэну або селера, а можна нават дадаць лыжачку таматнага соусу «Кечуп». Каб мяса атрымалася пульхнае, дадаем на паўкілаграма мяса 1 намочаную булку, або сцертую на тарцы бульбіну, або лыжку мукі. І апрача таго, 1 яйцо. Мяса добра размешваем і, калі хочам, каб было яшчэ больш пульхнае, дадаем пену з 1 бялка.

### БІТОЧКІ Ў ГРЫБНЫМ СОУСЕ

У папярэдні дзень намочваем 4—5 вымытых сушаных грыбоў у летняй вадзе. На наступны дзень грыбы варым у гэтай жа вадзе. З паўкілаграма мяса падрыхтоўваем масу, пададзеную вышэй. Можна да яе дадаць яшчэ лыжачку сцертага хрэну, каб была больш вострая. Робім круглыя біточкі, мачаем іх у муку і добра падсмажваем на патэльні.

Падрыхтоўваем грыбны соус: белую засмажку з мукі і тлушчу разводзім астуджаным наварам з грыбоў, запраўляем па смаку соллю і перцам, дадаем пасечаныя грыбы, варым хвіліну, памешваючы.

Біточкі кладзем у соус і тушым пад крышкай на малым агні мінут 15. Вельмі смакуюць яны з грэчневай кашай ці з пансаком.

### ПЕРАКЛАДАНЕЦ

На гэтае блюда неабходна ўзяць на паўкілаграма мяса акрамя неабходных дадаткаў, яшчэ банку зялёнага кансерванага гарошку.

Падрыхтаваць мясную масу, дадаючы ў канцы пену са збітага бялка. Гарошак асушыць дакладна. Плоскую каструльку змазаць тлушчам, абсыпаць сцертай на тарцы сухой булкай, выкладзыць палову мяснай масы, на гэта — роўным пластом зялёны гарошак, прыкрыць другім пластом мяснай масы, зверху палажыць некалькі кавалачкаў масла, пасыпаць цертай булкай і запячы ў гарачай духоўцы. Падаваць з бульбай ці рысавай кашай ды салатам з морквы, хрэну і яблыка.

*Гаспадыня*

## ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Фашысцкая Германія, рыхтуючыся распачаць другую сусветную вайну, стварыла магутны разведвальны апарат, у якім далёка не апошнюю ролю адыграла авіяцыя. Яшчэ ў пачатку 30-х гадоў у сценах герынгаўскага «міністэрства грамадзянскай авіяцыі» была арганізавана група паветранай інфармацыі. Некалькі вопытных генералаў і афіцэраў райхсвера перакачавалі пад крылца «тоўстага Германа» і разгарнулі ціхую падрыхтоўку да вядзення паветранага шпіянажу. Да 1939 года гітлераўская «Люфтвафе» (ваенная авіяцыя) мела 53 разведвальныя эскадрыллі. У ходзе вайны лік разведвальнай авіяцыі ўзрос і складаў пятую частку ўсёй авіяцыі. Але дакументы сцвярджаюць, што гітлераўскія паветраныя сілы выканалі толькі частку разведвальных заданняў. Куды большую ролю ў гэтай справе ігралі розныя цывільныя арганізацыі і перш за ўсё германскае акцыянернае паветрана - транспартнае таварыства «Люфтганза» і фірма «Юнкерс».

У 1936 годзе Герынг даручае капітану авіяцыі Тэадору Ровелю, былому кайзераўскаму ваеннаму лётчыку, выбраць з «найбольш надзейных і вопытных пілотаў, радыстаў, штурманаў і механікаў «Люфтганзы» «моцную групу спецыялістаў», якую ў будучыні можна было б разгарнуць у авіяцыйную часць «спецыяльнага прызначэння». На працягу некалькіх год гэта шпіёнская часць абслугоўвала ўсе еўрапейскія паветраныя лініі. Нявінна выглядаючыя паветраныя рамізнікі вадзілі свае «Ю-52» і «Ю-86» па ўсіх еўрапейскіх паветраных дарогах, прычым амаль заўсёды «па чыстай выпадковасці» выходзілі на ляжачыя далёка ад іх курсу стратэгічныя аб'екты.

Для эскадры Ровеля былі пабудаваны спецыяльна абсталяваныя самалёты тыпу «Ю-86», «Хейнкель—III» і «Дарн'е—17» з павялічаным радыусам дзеяння. На гэтыя нічым не нагадваючыя ваенныя самалёты ўстанаўлівалі магутныя аэрафотакамеры і выбуховы механізм, які аўтаматычна знішчаў самалёт і лётчыка, калі машына рабіла прымусовую пасадку на чужой тэрыторыі. Людзі Ровеля тварылі сваю чорную справу ў небе ўсіх краін Еўропы, закідвалі агентаў і дывер-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЯЛІКІ ФЭСТЫН

9 мая г.г. адбыўся ў Мілейчыцах вялікі фэстын, прысвечаны Дню Перамогі. Было каля чатырох тысяч удзельнікаў з розных мясцін Сямяціцкага павета. Тут былі дэлегацыі КП ПАРП, Саюза вясковай моладзі, ЗБоВіД і іншых арганізацый. У каляровым паходзе з вянкамі ішлі на могілкі савецкіх воінаў усе, каму слова «перамога» было і назаўсёды застанецца ў душы не толькі ўспамінам гістарычных падзей, але і натхненнем да барацьбы за мір і шчасце людзей. За паходам ехалі матацыклісты — удзельнікі эстафеты «Шляхам легендарнай партызанскай дывізіі імя Каўпака».

На могілках савецкіх воінаў адбыўся мітынг. З прамовай выступіў I сакратар ГК ПАРП Міхась Вішанка.

Пасля ўрачыстага мітынгу адбылося шэраг спартыўных і мастацкіх мерапрыемстваў. Перш за ўсё выступіў калектыў з Гарадка. Яго выступленні, якія адбыліся ў перапоўненай зале мясцовай святліцы, згуртаваная публіка прыняла вельмі сардэчна.

Са спартыўных мерапрыемстваў трэба адзначыць футбольны матч паміж дружынамі Мілейчыц і Нурца і матацыклетныя спаборнітцвы на «Залатую каску», арганізаваныя павятовым праўленнем ЛОК. Адбыўся таксама кніжны кірмаш з латарэяй. А народная забава пад гукі аркестра працягвалася да раніцы.

Арганізатарамі фэстыну перамогі былі ГК ПАРП і праўленне аддзела БГКТ у Мілейчыцах.

*Сяргей Крэйза*
*Фота аўтара*

*На мітынгу. Члены экзекутывы КП ПАРП — М. Карпюк (І сакратар КП), А. Хшаноўскі і В. Майсюшка.*

*Так выглядаў паход.*

## Сардэчныя тайны

*Дарагое Сэрцайка!*

Я паходжу з вёскі, але жыву ў горадзе, бо прыйшла сюды вучыцца ў сярэднюю школу, але яе не закончыла, перарвала вучобу ў дзесятым класе і пайшла працаваць. Мой сябра па рабоце пазнаёміў мяне два гады таму назад з Віцем, які таксама працуе ў тым самым горадзе. Віця мне вельмі спадабаўся. Я яму таксама. Мы «хадзілі» два гады і думалі пажаніцца. Я нават была ў Віціных бацькоў на вёсцы. Падобна, ім спадабалася (так гаварыў мне Віця). Але вось ужо тры месяцы, як мы скончылі сяброўства. Віця, калі ўбачыць мяне на вуліцы, дык хутка стараецца мяне прывітаць і ідзе далей, нават не затрымоўваецца. Я званіла яму па тэлефоне на работу, прасіла, каб ён вярнуўся, але ён нават і слухаць не хацеў і адклаў тэлефонную трубку. А вось за што паспрачаліся мы, а ўласна кажучы, не спрачаліся мы, толькі Віця больш да мяне не прыйшоў, а пазваніў толькі, што ўсё скончылася. Аднойчы ў нядзелю мы дагаварыліся, што Віця прыедзе да мяне на кватэру (я жыву з сяброўкамі) і мы пойдзем сабе патанцаваць. Але мяне ў той дзень якраз папрасіў іншы хлапец, больш прыстойны за Віцю, і я пайшла з ім. Вярнулася дамоў а гадзіне трэцяй наступнага дня. Віця прыйшоў, і як кажуць сяброўкі, чакаў мяне аж да першай гадзіны ночы. Нічога не кажучы, выйшаў з хаты і больш не вярнуўся.

Парай, Сэрцайка, што мне цяпер рабіць, як перапрасіць Віцю, мы ж думалі жаніцца.

*Ніна з Б.*

*Ніна!* Нічога дзіўнага, што Віця паступіў так, а не інакш. Дык і кожны, мо амаль кожны хлапец паступіў бы падобна. Ён думаў аб табе сур'ёзна, думаў жаніцца, нібы і ты таксама. Тады чаму ж ты ўмовілася і пайшла гуляць з іншым? Ці толькі таму, што ён прыстойны? Да таго ж яшчэ на цэлую ноч. З таго вынікае, што гэты другі табе больш спадабаўся. Відаць, ты не кахаеш Віцю, бо цяжка інакш вытлумачыць твой паступак. Тады, Ніна, не варта дурыць галавы Віцю і сабе, бо якое ж гэта будзе тваё (вашае) супружаскае шчасце, калі на вуліцах ходзяць прыгожыя і прыстойныя хлопцы? Вось іменна таму Віця адышоў ад цябе: за тваю несур'ёзнасць, лёгкадумнасць. Думаю, што не варта перапрашаць, лепш спакойна чакаць. Калі Віця не будзе мець столькі сілы, каб забыць цябе, вернецца напэўна, а твой паступак будзе табе перасцярогай на будучыню. У іншым выпадку трэба табе будзе забыць пра Віцю. Не раз жа трэба «плаціць» дорага за свае памылкі.

*Сэрцайка*

## БУЖСКІ «КУРДЭШ»

23—25 красавіка г.г. адбыўся над Бугам «курдэш» (старапольскі рэйд). Арганізатарам рэйду на правым беразе ракі быў студэнцкі клуб «Бадзяга», які дзейнічае пры беластоцкай акруговай радзе аб'яднання польскіх студэнтаў, на левым беразе — універсітэцкі турыстычны клуб «Унікат», які дзейнічае пры універсітэце ў Варшаве.

Студэнты ішлі шматлікімі трасамі праз найпрыгажэйшыя прыбужскія мясцовасці. Усе аднак сустрэліся ў Мельніку, дзе і адбылося ўрачыстае заканчэнне рэйду.

У мастацкай частцы ўсім вельмі **спадабалася** выступленне харавога калектыву бельскага аддзела БГКТ. Вялікай сенсацыяй быў таксама шлюб старасты варшаўскай часткі са старасціхай беластоцкай часткі рэйду.

У рэйдзе ўдзельнічала каля 500 студэнтаў. Арганізатары рэйду спадзяюцца, што супрацоўніцтва з Беларускім грамадска-культурным таварыствам, а асабліва з бельскім хорам, будзе паспяхова развівацца і што ў наступным рэйдзе над Бугам мы зноў зможам захапляцца прыгожымі галасамі і песнямі калектыву.

*Ніна Прытульчык,*
*кіраўнік рэйду беластоцкай часткі*

## СХОД

9 мая г.г. у Дубічах Царкоўных адбыўся вясковы сход, на якім сяляне абмеркавалі справу супольнай вясковай пашы, што размешчана ў трох месцах. Сяляне пастанавілі падзяліць паміж сабой гэту пашу. Дубіцкая паша складае абшар каля 120 гектараў угоддзяў і размешчана ва ўрочышчах «Жалубок», «Мядзведзь» і «Зады». «Жалубок» два гады таму сяляне выкарчавалі (каля 30 га) і засеялі мінулай восенню травою.

В. Б.

## НЯМА КАМУ ЗАДБАЦЬ

Вёска Плёскі даволі вялікая. Таму, каб у выпадку пажару было чым агонь гасіць, патрэбны тут два басейны. А як справа выглядае? Адзін басейн у парадку. А другі ўжо другі год будуюць і пабудаваць не могуць. Навазілі цэментавых плітак, якія ўжо травой пазарасталі. Выкапалі глыбокую яму, якая ўжо абвалілася. Пра будову і гутаркі няма. Варта ўрэшце заняцца гэтай справай сур'ёзна, бо з пажарам не жартуюць, а вады не будзе.

*Чытач з Плёсак*

## У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

14 мая г.г. вучні і настаўнікі беларускага ліцэя ў Бельску калектыўна пайшлі на польскі фільм «Пан Валадыёўскі». Усім ён вельмі спадабаўся.

*Янка, бельскі беларускі ліцэй*

## РОСТ ЗАЦІКАЎЛЕННЯ ЗЯМЛЁЙ

У выніку ажыццяўлення пастановы пленума ВК ПАРП і ВК ЗСЛ ад 5.III.1964 г. аб загаспадаранні зямлі дзяржаўнага зямельнага фонду гайнаўскія сельскагаспадарчыя гурткі да 1970 г. уключна пераналі 93533 гектары гэтай зямлі. Асаблівае зацікаўленне гэтай зямлёй з боку сельгасгурткоў наступіла ў 1969—70 гадах. Садзейнічалі гэтаму больш спрыяльныя ўмовы, між іншым, эканамічныя стымулы, якія стварылі новыя ўмовы кантрактацыі збожжа, і канцэнтрацыя ў сельгасгуртках і міжгуртковых машына-трактарных базах большай колькасці трактароў і іншых сельскагаспадарчых машын.

Найбольшую дынаміку ў апошнія гады праявілі пры загаспадаранні зямлі дзяржаўнага фонду сельскагаспадарчыя гурткі ў Ставішчах, Іванках і Навасадах.

*Віталіс Назарук*



# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Spotkali się w pociągu" (radziecki), 8—9. „Popioły" (polski), 10—11. „Zdarzenie" (włoski), 12—13.

**Нараўка**

„Dżamila" (radz.), „Gang Olsena" (duński), 9—13.

**Нарва**

„Co wieczór o 11-ej" (radz.), „Nie smuć się" (radz.), 9—13.

**Чыжы**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radziecki), 9—13.

**Арэшкава**

„Westerplatte" (polski). „Wyspa na lądzie" (węgierski), 12—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Popierajcie swego szeryfa" (USA), „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 9—13.

**Райск**

„Przygoda z piosenką" (polski), „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (ang.), 9—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Testament Agi" (węgierski), 8—9. „Miraż" (USA), 10—11. „Pułapka" (polski), 12—13.

**Янаў**

„Pogromca zwierząt" (rumuński), 9—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), „Ściana czarownic" (polski), 9—13.

**Мельнік**

„Aleksander Newski" (radz.), 8—9. „Smog" (ang.), 10—11. „Pogromca zwierząt" (rumuński), 12—13.

**Мілейчыцы**

„Cisza! Na sali operacja" (radziecki), 8—9. „Effi Briest" (NRD), 10—11. „Mały" (polski), 12—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Przystanek komisariat" (węgierski), „100 karabinów" (USA), 9—13.

**Новы Двор**

„Świeć moja gwiazdo" (radz.), „Niebo bez krat" (rumuński), 9—13.

---

саптаў у Англію і Савецкі Саюз. Найбольш бруднай з усіх брудных спраў эскадры была бамбардыроўка Будапешта нямецкімі самалётамі з савецкімі апазнавальнымі знакамі, мэтай якой было справакаванне канфлікту паміж Венгрыяй і Савецкім Саюзам.

У гады вайны эскадру Ровеля вырашыў скарыстаць верхавод эсэсаўцаў Гімлер. Пры штабе спецыяльнага злучэння «Брандэнбург» былі арганізаваны «спецкурсы», якія ўзначаліў вядомы Ота Скарцэні.

Атрымаўшы эскадру, Скарцэні задумаў вельмі рызыкоўную аперацыю. Яго давераныя павінны былі прасачыцца ў Іран і там, выкарыстоўваючы незадавальненне шэйхаў і князькоў, арганізаваць узброенае паўстанне, якое парушыла б пастаўкі заходнімі саюзнікамі ваенных матэрыялаў у Савецкі Саюз і стварыла пагражаючае становішча на граніцах з Азербайджанам.

У красавіку — маі 1943 года пасля дакладнай разведкі раёна дзеяння людзі Скарцэні пачалі аперацыю. Цёмнай ноччу з занятага нямецкімі войскамі Крыма два «Хейнкелі» ў суправаджэнні «Ю-290» вылецелі ў напрамку Тэгерана. Два афіцэры, тры ўнтэр-афіцэры і прэс-перакладчыкі спусціліся на парашутах паблізу вёскі, якая лічылася «найбольш падыходзячай». Апрача асабістай зброі, правіянта і партатыўных рацый, у торбах эсэсаўцаў ляжала некалькі дарагіх падарункаў — пазалочаныя пісталеты, упрыгожаныя срэбрам і чаканкай паляўнічыя стрэльбы. Але шчасце не ўсміхнулася малойчыкам Скарцэні. Падарункі не падзейнічалі...

(Заканчэнне праз тыдзень)

*Жыллёвыя «блёкі» ў Старым Ляўкове.* *Фота Я. Цялушэцкі*

## «БЕЛАЯ НЯДЗЕЛЯ»

16 мая г.г. у вёсцы Пянькі Беластоцкага павета адбылася «белая нядзеля». Масавы лекарскі агляд правялі лекары — члены ЗСЛ з Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Лекары прымалі ў двух пунктах; у будынку школы — дзяцей і ў клубе гаспадара — дарослых. Ахвотных да лекарскага агляду было вельмі многа. Вядома, на вёсцы ў звычайны дзень выбрацца да лекара няма часу, а ў нядзелю іншая справа. Трэба падкрэсліць самаахвярнасць і ветлівасць лекараў. «Белая нядзеля» з кожнага пункту гледжання была ўдачным мерапрыемствам.

(кл)

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3

